# ПАГОНЯ

РЭГІЯНАЛЬНЫ АГЛЯД: ГОРАДНЯ — ВІЛЬНЯ — БЕЛАСТОК

ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

№ 37 (51) 19—25 лістапада 1993 года Кошт 25 рублёў


Паміж намі, сялянамі, кажучы... **ЛІСТЫ З ВЁСКІ.**

Ісус Хрыстос прыйшоў на зямлю, каб **АБ 'ЯДНАЦЬ НАС У ЛЮБОВІ...**

**БЕЛАРУСАЎ СТАНОВІЦЦА МЕНЬШ.** Куды ж крывая прывядзе?

**ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ** на тыдзень: Менск — Варшава — Масква.

# Палітычнае забойства ці ахвяра мафіі?

**Ад сьмерці гарадзенскага ваяводы прайшоў прыкладна месяц. Пакуль невядома, хто быў яго забойца. У Горадні гэта забароненая тэма...**

**Зразумела толькі адно, у Дзьмітрыя Арцымені, гарадзенскага ваяводы, народнага дэпутата Беларусі, страляў прафэсіянал. Хутчэй за ўсё, ён дасканала ведаў план работы і звычкі Арцымені, верагодна, меў у распараджэньні зброю з гукапаглынальнікам, верагодна, пад 'ехаў да дома на вуліцы Астроўскага, 12 на хуткім легкавіку.**

На прафэсіянала ставіла альбо мафія, альбо палітычная сіла. Так гавораць у Горадні. Успамінаецца, што групоўка з радоў КПСС прапанавала Дзьмітрыю Арцымені быць кандыдатам у прэзідэнты Беларусі. Думка была выказана прыкладна за два тыдні да яго сьмерці ў час паседжаньня Вярхоўнага Савета. Сьмерць Дзімітрыя Арцымені нязначна апярэдзіла маскоўскую авантуру і арышт Хазбулатава.

## Кіраўнік дзяржавы зарабляе меней

Дзьмітрый Арцыменя загінуў а 21 гадзіне па маскоўскаму часу 29 верасьня бягучага года.

Раніцой наступнага дня ў сэйфе, у яго габінэце, былі знойдзены дойчмаркі і даляры ў пераліку на рублі каля 70 мільёнаў.

— Такую суму мне трэба зьбіраць трыццаць гадоў,— паведаміў менскаму радыё старшыня ВС РБ Станіслаў Шушкевіч.— У ваяводы, які мае больш нізкую заработную плату, гэта павінна заняць больш часу. Д. Арцыменя займаў сваю пасаду толькі дзесяць гадоў.

**(Заканчэньне на 3-й стар.).**

## Беражыце зубы!

Каб хоць як дапамагчы сваім пацыентам, дантысты другой стаматалагічнай паліклінікі Горадні наўзамен імпартовых плямбіровачных матэрыялаў наноў пачалі выкарыстоўваць айчынны цымент.

На жаль, нават выкарыстаньне даўно забытай цывілізаваным сьветам такой плямбіровачнай сыравіны не вырашае пытаньне. Лекарам хранічна не хапае стэрыльнай марлі, ваты, прэпаратаў анастэзіі. І гэта у той час, калі на мясцовым торжышчы за даляры ці расейскія рублі у спэкулянтаў можна набыць любы лек.

## Падлічым заробкі

Нядаўна чуў, як група рабочых дыскутавала над пытаньнем, дзе большыя заробкі. Кар. «Пагоні» задаў гэтае пытаньне супрацоўнікам аддзелаў працы і заробку на некаторых гарадзенскіх заводах і фабрыках. У выніку высьвятлілася, што найбольш зарабляюць, прыкладна 140—160 тысячаў рублёў, рабочыя і служачыя ВА «Азот» і ВА «Гроднаэнэрга». Найменшая зарплата пакуль што ў рабочых завода «Радыёпрыбор» (70—80 тысячаў) і ВВА Беларускага таварыства сьляпых (30—40 тысячаў рублёў). У сфэры сэрвісу першынствуюць фатамайстры — 80—100 тысячаў рублёў. Найменш тут зарабляюць цырульнікі — 15—20 тысячаў.

# Вісткі з Польшчы

30 верасьня Ваяводзкі Суд у Беластоку зарэгістраваў Беларускае Гістарычнае Таварыства, старшынёй якога зьяўляецца доктар Антон Міранові́ч — навуковы супрацоўнік філіяла Варшаўскага унівэрсітэту ў Беластоку. Мэты БГТ:

1) разгортваньне навуковай, культуратворчай і грамадзкай дзейнасьці гісторыкаў-беларусістаў;

2) дзеяньні, накіраваныя на здабываньне і распаўсюджваньне гістарычных ведаў пра Беларусь і павагі да беларускіх народных традыцый;

3) прапагандаваньне палажэньняў народнай цярпімасьці, якія судзейнічаюць фарміраваньню дружалюбных адносін паміж беларусамі і палякамі, а таксама прадстаўнікамі іншых нацыянальнасьцяў у Польшчы.

* * *

У сярэдзіне кастрычніка зьявілася ў продажы (і хутка зьнікла) кніга доктара Эўгэнюша Міранові́ча «Беларусы ў Польшчы. 1944—1949».

* * *

У пачатку кастрычніка Ваяводзкая Пракуратура ў Беластоку пачала сьледства па справе падробкі дакумэнтаў у суполцы «Пронар» з Нарвы, старшынёй якой зьяўляецца Сяргей Мартынюк. Па зьвестках штотыднёвіка «**Wprost**», ён адзін з 100 самых заможных людзей у Польшчы. «Пронар» — гэта адна з найвялікшых фірмаў у Беластоцкім ваяводзтве, якая займаецца экспартам сельскагаспадарчай прадукцыі на Беларусь. Суполка таксама вырабляе трактары з дэталяў, якія пастаўляюцца з Менскага трактарнага заводу.

* * *

Каля 300 чалавек, якія атрымліваюць пэнсіі з Беларусі, з красавіка чакаюць свае грошы. У такой сытуацыі пэнсіянэрам выплачваюць толькі квартальныя задаткі, бо з другога квартала бягучага года Польшча не атрымлівае ад Беларусі грошай. Каб вырашыць пытаньне, патрэбны рашэньні ВС РБ.

* * *

4 кастрычніка прэзідэнт Польшчы Лех Валэнса ўручыў прафэсарскія пасьведчаньні 36-ці людзям навукі, сярод якіх беластоцкі сацыёлаг доктар Андрэй Садоўскі. Прафэсар А. Садоўскі з Вялікіх Тыневічаў у гміне Нарэў. Сярэднюю адукацыю атрымаў у польска-беларускім Пэдагагічным ліцэі ў Бяла-Падлясцы. У пачатку 70-х гадоў напісаў у Сацыялягічным інстытуце доктарскую працу «Ператварэньне сьвядомасьці беларускай нацыянальнай меншасьці ў умовах перахода да горада». У 1991 годзе інстытут Рэлігіязнаўства выдаў яго кніжку «Народы вялікія і малыя. Беларусы у Польшчы».

**Паводле матэрыялаў газэт «Czasopis» і «Ніва».**

Падрыхтаваў А. ДУК.

# Віленскія паведамленьні



Вільня.
Фатаграфаваў А. УЛАДАСЕВІЧ.

## Пра візыты з візамі

На паседжаньні Сейму па замежных справах зацьверджаны сьпіс дзяржаваў, грамадзянам якіх не патрэбныя будуць візы, калі яны пажадаюць прыехаць у Летуву. Гэта Балгарыя, Чэхія, Эстонія, Данія, Ісляндыя, Англія, Латвія, Польшча, Кітай (з дыпляматычнымі і замежнымі пашпартамі), Нарвэгія і Славаччына.

Урадам Летувы вызначаны кошты на візы для грамадзян СНД, Грузыі, Азэрбайджану і Малдовы. За звычайную візу ім трэба плаціць 5 даляраў ЗША, за сьпецыяльную, якая выдаецца ня больш чым на 2 гады замежнікам, якія прыяжджаюць у Летуву на працу ці вучобу — 10 даляраў. Транзітная віза каштуе 3 даляры, калектыўная — па 3 даляры за кожнага.

Плата прымаецца толькі ў далярах ЗША.

Пры атрыманьні візы на пунктах памяжоўнага кантролю консуляцкі збор на 2 даляры вышэй (за шматразовую — на 5 даляраў).

А да 1 ліпеня 1994 года людзі гэтых краін могуць прыехаць у Летуву і ня плоцячы даляраў, калі ім хтосьці (прыватная асоба або арганізацыя) зробіць запрашэньне, кошт якога складае 5 літаў.

Для грамадзян Беларусі і ўвогуле палёгка. Да 1 студзеня 1994 года ў Летуву можна прыехаць і без даляраў, і без запрашэньня, толькі з замежным пашпартам.

Канешне, візавы рэжым, які ўвяла Летува для былых «савецкіх братоў» — не самы лепшы падарунак. Суцяшае толькі адно — «капіталістам» трэба плаціць больш. Кошт сьпецыяльнай візы — 50 даляраў ЗША. Звычайная віза для гэтых грамадзян каштуе 20, транзітная — 5, калектыўная па 10 даляраў ЗША з кожнага. Віза на мяжы для іх абыйдзецца на 10 даляраў даражэй.

## Не езьдзіце «зайцамі»

Віленская паліцыя злавіла хаўрусьнікаў, што выраблялі і прадавалі хвальшывыя талёнчыкі на гарадзкі транспарт. Грамадзянка А. Кудраўцава прызналася, што ў сябе на працы ў завадзкой тыпаграфіі яшчэ ў лютым пачала друкаваць талёнчыкі. Спачатку — толькі для сваёй сям 'і, потым мужык ейны пачаў прадаваць іх за поўцаны.

Бізнэс аказаўся выгадным. Грамадзянін Кудраўцоў узяў у хаўрус сваіх прыяцеляў, з якімі часьцей за ўсё і прапіваў натарганыя грошы.

## Прагама тэлеперадач

На Віленшчыне, ды й ва ўсёй Летуве, любяць глядзець першую праграму Польскага тэлебачаньня. Але камэрцыйнае «Балтыцкае ТВ» неўзабаве, мусіць, спыніць рэтрансьляцыю «Варшавы-1», а замест яе будуць пускаць сатэлітарную праграму «Паленія». Прычына — парушэньне закона аўтарскіх правоў. Замежныя фільмы, якія ідуць у праграме «Варшава-1», не маюць права трансьлявацца за межамі Польшчы бяз згоды іхніх аўтараў. Цікава, ці ўдасца Польшчы падпісаць новыя кантракты з замежнымі кінакампаніямі, каб дамагчыся трансляцыі іх у Летуве?

**(Заканчэньне на 2-й стар.)**

## Нечарговы адпачынак

Адсутнасьць сыравіны, камплектуючых, а часам і патрэбнага абсталяваньня вымушаюць раз-пораз спыняцца большасьці гарадзенскіх вытворчых прадпрыемстваў. Так, у кастрычніку па чарзе спынялі свае цахі Гарадзенскі камбінат будаўнічых матэрыялаў, заводы карданных валаў і такарных патронаў, з перабоямі працуе й малаказавод.

Між іншым, рабочыя спыненых заводаў успрымаюць гэта спакойна і без пратэстаў адыходзяць у нечарговы вымушаны адпачынак.

Г. У.



# ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

## Чарговае паседжаньне сойму БНФ

Яно адбылося 13 лютага ў Менску ў сядзібе Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне».

У парадку дня разглядаліся пытаньні разьвіцьці палітычных падзей, справаздачы Гарадзенскай і Менскай Рад БНФ аб прадвыбарчай падрыхтоўцы, інфармацыйныя паведамленьні аб канфэрэнцыі БНФ-ІХД (В. Трыгубовіч і Ю. Хадыка), аб судовых справах і выбарах у ВС (З. Пазьняк), аб акцыях Беларускага Народнага Фронту (В. Вячорка).

У сувязі з праходзячай 13 сэсіяй ВС РБ галоўнымі, так бы мовіць, былі пытаньні аб разьвіцьці палітычных падзей на Беларусі.

Першым выступіў з дакладам «Становішча ў ВС, пэрспэктывы 13-й сэсіі» народны дэпутат, старшыня Сойму БНФ З. Пазьняк. У сваім выступе ён засьведчыў, што ўрад быў моцна перапалоханы кастрычніцкімі падзеямі ў Маскве і таму «добра» падрыхтаваўся да гэтай сэсіі, выведшы падпарадкаваныя Саўміну вайсковыя часткі на пляц Незалежнасьці, ачапіўшы імі будынак і амаль нашпігаваўшы АМОНам усе памяшканьні Дома Ўраду. Невялікая група дэпутатаў рыхтавала сапраўдны ўрадавы пераварот па бальшавіцкай звычцы. Трэба было толькі кроў праліць на пляцы. Але... плошча была амаль пустой. І БНФ зрабіла выснову, што насельніцтва цяпер яшчэ жыве добра і пры адсутнасьці нацыянальнай сьвядомасьці, духоўнасьці, патрыятызму нічым ахвяраваць такі народ не будзе. А вось як скончацца запасы нафты, мазута і адключаць цяпло і больш узрасьцяць цэны, псіхалёгія насельніцтва зьменіцца ў бок БНФ.

Задача апазыцыі на гэтай сэсіі, гаварыў дакладчык, давесьці да дэпутатаў пракамуністычнай большасьці разуменьне аб адстаўцы збанкрутаваўшага ўраду.

У другім дакладзе «Становішча ў эканоміцы і палітычныя праблемы» народны дэпутат Л. Баршчэўскі зазначыў, што важна зрабіць стратэгію і не памыліцца, што зноў няма аптымізму пра рублёвую зону, што трэба правільна прагназаваць падзеі ў Расею.

Зарабляць грошы лягчэй, гаварыў дакладчык, калі ёсьць незалежнасьць і дзяржаўная самастойнасьць. Сувязі разарваны толькі размяркавальна-адміністрацыйныя, і зьявіўся крызіс неплацёжаздольнасьці, таму што няма грошай. У нас жа ня ўмеюць зарабляць грошы, а патрабуюць спачатку «стабілізаваць эканоміку». Але каб стабілізаваць, найперш трэба сàмае галоўнае — грошы. А іх ніхто за дарма не дае і не дасьць.

З наступным дакладам «Палітычныя працэсы ў Расеі і дачыненьне іх да Беларусі» выступіў Ю. Хадыка, які сказаў, што прэзыдэнцкая каманда ў Расеі шмат робіць для ліквідацыі усіх камуністычных праяўленьняў і інстытутаў. Мы ж стаім на раздарожжы. Урад і большасьць Вярхоўнага Савета, якая падтрымлівае яго, шукаюць шлях утрыманьня пры ўладзе. І знайшлі — безумоўная здача Беларусі Расеі і ўваход у імпэрыю. Беларусь пазбавіцца сваёй незалежнасьці. Гэты шлях вядзе нас да нацыянальнай здрады.

На БНФ зараз ляжыць галоўны цяжар барацьбы за рэспубліку, за Бацькаўшчыну.

У дыскусіях па дакладах выступілі сябры і госьці Сойму.

**Я. КУХТА,**
**сябра БНФ.**







Фатаграфаваў А. УЛАДАСЕВІЧ.

## Калі вы хочаце кіраваць

Дзіўнае пытаньне, скажаце вы. Людзі аднолькавых светапоглядаў аб 'ядноўваюцца дзеля палітычнай дзейнасьці, скіраванай на абарону сваіх правоў. Прыкладна так сказаў намесьнік начальніка ўпраўленьня сельскай гаспадаркі й харчаваньня Мастоўскага раёна М. І. Маскевіч на адным са сходаў. Службовая нарада спэцыялістаў сельскай гаспадаркі раёна ў той раз была ператворана ў звычайную агітацыйную сходку па стварэньню Аб 'яднанай аграрна-дэмакратычнай партыі. І калі ўсе аргумэнты па вярбоўцы пад свае калгасна-саўгасныя штандары былі вычарпаны, зазывала пачаў гаварыць адкрыта: «Калі хочаце застацца працаваць на сваіх пасадах ды заваяваць калгасы,— запісвайцеся».

Вельмі дакладна сказана. Хочаш кіраваць, быць начальнікам ці папросту панам — ствары партыю, ды гэй у парлямэнт і абараняй свае правы й інтарэсы.

Эпізод гэты мясцовага значэньня, але, на маю думку, заслугоўвае ўвагі.

Калі йдзе гаворка пра пашырэньне шэрагаў нацыянал-дэмакратаў, сацыял-дэмакратаў ці іных дэмакратычных плыняў, то ў абывателя, які, дарэчы, лічыць сябе чалавекам сьвядомым, заўжды знойдзецца нейкая адгаворка: ці коска ў статуце не там пастаўлена, ці праграма партыі занадта маленькая, альбо сам старшыня ростам ды тварам не да спадобы. І атрымліваецца, што дэмакрата ў дэмакратычную арганізацыю на вяроўцы не зацягнеш.

Ня хочаш сам шчыраваць на зямельцы, а маеш жаданьне быць панам,— уступай у партыю. Хто ж супраць?! Усім хочацца кіраваць.

За нейкі тыдзень-другі было праведзена аж 19 такіх сходаў. Завербавана больш за сто чалавек, сярод іх ніводнага радавога калгасьніка. Адбыўся арганізацыйны сход, на якім абраны кіруючыя органы на чале з вышэй згаданым М. І. Маскевічам і дэлегаты на вабласную канфэрэнцыю.

**І. ПАЛУБЯТКА.**
**г. Масты.**

## Віленскія паведамленьні

### На лясных сьцяжынках

Мяжа Беларусі з Летувой і Латвіяй усё больш вабіць ахвочых нелегальна эміграваць у Заходнюю Эўропу. Праз балтыцкія дзяржавы цяпер гэта зрабіць лягчэй, чым праз Польшчу. У 1993 годзе на мяжы Беларусі з Летувой і Латвіяй ужо затрымана 300 парушальнікаў. Кажуць, што беларусы, якія жывуць паблізу мяжы, за добрую плату ахвотна праводзяць праз мяжу лясныімі сьцежкамі.

### Партызаны

Прадстаўнікі ўладаў доўгі час запэўнівалі грамадзкасьць, што ў ковенскіх лясах наведзены парадак — бунтаўшчыкі вярнуліся ў казармы, міністр аховы краю выпраўлены ў адстаўку.

Нагадаем, што бунтоўныя дабраахвотнікі былі падаліся ў лес яшчэ 6 жніўня, прыхапіўшы з сабой 23 аўтаматы Калашнікава, 2 аўтаматы «УЗІ», 5 карабінаў, 2 дробнакаліберныя стрэльбы, 2 гранатамёты, другі рыштунак і 7 тысяч патронаў.

У другі раз, ноччу 16 верасьня, у ковенскія лясы разам з дабраахвотнікамі «пайшлі» 108 аўтаматаў Калашнікава, кулямёт, 23 карабіны і 7 дробнакаліберных стрэльбаў, 2 пісталеты, 5 кг узрыўчаткі, 20 электрадэтанатараў і каля 30 тысяч патронаў, радыёстанцыя і 3 грузавікі.

Аднак інфармацыя аб спакоі аказалася не сапраўднай. Нядаўна забойства 16-гадовай дзяўчынкі (якая знаходзілася з бунтаўшчыкамі ў адным пакоі) гаворыць, што ня ўсё так добра, як некаму хочацца.

### Як карта ляжа

У бліжэйшы час зьменіцца адміністрацыйная карта Летувы. Урадавая працоўная група прапанавала праекты адпаведных законаў. На месцы сёньняшніх раёнаў мяркуецца стварыць каля сотні валасьцей альбо самаўраваў. Гарадзкія і раённыя ўлады будуць аб 'яднаныя ў 10 уездаў. Уезды пераймуць функцыі міністэрстваў, дэпартамэнтаў, іншых дзяржаўных установаў. Усе праблемы будуць вырашацца на месцы, людзям ня трэба будзе езьдзіць з усяе краіны ў сталіцу. Гэта рэформа запатрабуе выдаткаў памерам 100—110 літаў. Плянуецца распачаць яе ў наступным годзе, а закончыць у 2000-ым.

### Справа гонару

Як вядома, Нямеччына дамовілася з Расеяй, Украінай і Беларусьсю, што сплоціць кампэнсацыю грамадзянам былога СССР, якія пацярпелі ад фашыстоўскага рэжыму пад час другой сусьветнай вайны. У сваю чаргу ўрад Расеі заявіў, што будзе аказваць кампэнсацыю ня толькі сваім грамадзянам, а й былым савецкім грамадзянам у Летуве, Латвіі. У Міністэрстве замежных справаў Летувы заявілі, што Рэспубліка жадала б атрымаць кампэнсацыю бяз пасярэдніцтва Расеі.

### Маразы

Сёньня ў Летуве назапашана паліва на 2 месяцы ацяпляльнага сэзону, але калі стане зімна і тэмпэратура паветра доўгі час пратрывае ніжэй за 15 градусаў марозу, ўсе запасы будуць зрасходаваны за пару тыдняў.

Сёлета ў Летуве ацяпляюць лепш, штодня ёсьць гарачая вада, а ў кватэрах на 2 градусы цяплей, чым летась. Дзяржаўная энэргэтычная сістэма ацяпленьня каштуе 886,2 тыс. даляраў за месяц.

### Навіна

Таварыства Беларускай культуры ў Летуве пачало выдаваць адмысловую старонку цалкам на беларускай мове ў дзяржаўнай рускамоўнай газэце «Эхо Литвы». На гэтай старонцы можна прачытаць пра багатую беларускую культурную традыцыю Віленскага краю. Называецца ж старонка «Беларус Віленшчыны» і будзе выходзіць штопятніцы.

**С. В.**

## «Радыёкур 'ер» польскі

БРУСЭЛЬ. Адказныя асобы з міністэрстваў культуры й адукацыі Бэльгіі, Галяндыі, Даніі і Нарвэгіі выказаліся супраць аб 'яднаньня дзяржаў Заходняй Эўропы ў адзіны дом.

Свае заявы шаноўныя чыноўнікі грунтуюць на небясьпецы, якая абавязкова ўзьнікне ад значна мацнейшых культурных традыцый больш вялікіх суседніх народаў. А таму, каб захаваць адметнасьць сваіх нацый у Эўрапэйскім доме, некаторыя адказныя асобы гэтых міністэрстваў раяць урадам сваіх краінаў не сьпяшацца, а добра вывучыць усе магчымасьці захаваньня сваёй культурнай непаўторнасьці.

СТАКГОЛЬМ. Міністэрства фінансаў і падаткаў Швэцыі выступіла з афіцыйнай заявай, у якой паведамляе, што ў сувязі з 70% падаткам на прыбытак многія канцэрны, фірмы й прыватныя асобы пачалі разьмяшчаць свае дэвідэнты ў замежных банках, наносячы сваімі крокамі вялізарныя шкоды фінансавай сістэме дзяржавы.

Калі так будзе працягвацца й надалей, а ўрад не перагледзіць падаткавую палітыку, то, як вынікае з заявы, Швэцыя ў хуткім часе стане фінансавым банкрутам.

**Занатаваў Г. У.**





# Лісты з вёскі

# Паміж намі, сялянамі, кажучы...

## Бульбы горы — гэта гора

У гэтым годзе надзіва добра ўрадзіла бульба ў нашай краіне. Па 200 і больш цэнтнераў з гэктара атрымалі ў большасьці калгасаў, ды й сяляне са сваіх соткаў вазілі бульбу вазамі і прычэпамі. Зьявіліся лішкі прадукта: і калгасы, і сяляне спадзяваліся прадаць яго з выгадай. Але ж нічога не атрымалася. Дзяржава-манапаліст пачала дыктаваць сялянам свае цэны. Ды такія сьмешныя, што куды там да нейкай «Русской Америки». Дзяржава закупляе ў калгасаў і прыватных асобаў адборную бульбу па кошце 40 тысячаў рублёў за тону, а бульбу для тэхнічных патрэбаў (на выраб сьпірта і г. д.) — па кошце 35 тысячаў руб. за тону. У мінулым жа годзе дзяржава купляла адборную бульбу па 20, а астатнюю — па 15 тысячаў. Вось які яскравы прыклад, як дзяржава «клапоціцца» пра сельскую гаспадарку.

Пакуль працягваецца дзяржаўны манапалізм, ні аб якім рынку ня можа быць і гаворкі. І ўсе размовы на дзяржаўным узроўні аб клопаце пра сялянаў ды калгасны лад ёсьць ня што іншае, як дзяржаўная хлусьня. Калгасы й саўгасы проста ня ведаюць, дзе дзяваць выдатны ўраджай бульбы, і вымушаны здаваць дзяржаве бульбу па 40 тысячаў. А што можна купіць за такі мізэр? Як кажуць у вёсцы: курыную сісю ды й тую ня ўсю. Нават і па такім кошце дзяржава ня можа закупіць у сялянаў усю бульбу, частка ўсёроўна застанецца.

Узгадваю ідэялягічныя кінакадры з жыцьця «акулаў» капіталізму: цукар высыпаюць у рэкі, тушкі жывёлаў выкідаюць у балота — абы толькі не ўпалі цэны на прадукцыю, бо чым больш тавараў, тым меншыя цэны. Ад «акулаў» капіталізму не адстаюць і «мастадонты» сацыялізму: лепш хай гніе, але народу не аддамо — такі іхні лёзунг.

Лішкі не прададзенай дзяржаве бульбы калгасы закладуць у бурты, у большасьці выпадкаў з парушэньнем тэхналёгіі захоўваньня. І тая бульба ў буртах да вясны згніе. Што згніе, тое не згарыць у полымі падвышэньня цэнаў. Але калгасы ані ў якім разе (барані Божа!) не аддадуць тую бульбу сваім калгасьнікам: маўляў, бярыце, каму колькі трэба, у калгасе яна ўсёроўна прападзе, а ў вас хоць на карысьць пойдзе. Такога ніколі не будзе, бо згодна канцэпцыі сацыялізму: не калгас для чалавека, а чалавек для калгаса.

Сяляне ж сваю бульбу не прададуць дзяржаве па такіх сьмешных цэнах, але і не змарнуюць. Яны будуць трымаць больш сьвіней у сваіх гаспадарках і скормяць лішнюю бульбу жывёлам. Ужо цяпер вялікі попыт на парасятаў, і кошт аднае пары 80—100 тысячаў. Сяляне атрымаюць відавочную выгоду. Сьвініна цяпер дарагая, і за тушку можна атрымаць на базары паўмільёна і больш рублёў. У большасьці сялянскіх гаспадарках трымаюць па трое, чацьвёра і больш сьвіней, каб і сям'ю мясам забясьпечыць, і капейчыну добрую мець. Бо на дзяржаву спадзявацца нельга.

Збанкрутаваная эканоміка ня можа давесьці да ладу ўраджай сельскагаспадарчых культураў, а толькі множыць страты. Вось вам наступствы калгаснага ладу жыцьця. Нездарма сумна жартуюць у вёсцы: бульбы горы — гэта гора. Удакладняем, што гора ад бульбы калгасам і дзяржаве, а добры гаспадар ніколі не змарнуе сваіх прадуктаў працы.

## Сквапны старшыня

Усялякія бываюць старшыні калгасаў. Адзін да людзей па-добраму ставіцца, і людзі да яго горнуцца, іншы лічыць сябе «мясцовым князьком», а трэйці ў «чырвоныя памешчыкі» пнецца. А вось наш старшыня Віктар Паўлавіч чалавек фанабэрысты і сквапны. Як кажуць на вёсцы: з фігай ні да носу. І павітаецца ня з кожным, а з абранымі.

Што да сквапнасьці, то нядаўна быў такі выпадак. Убіралі вучні калгасную моркву. Скончыўшы працу, кожны ўзяў сабе колькі трэба морквы — хто паўкошыка, а хто й больш. А тут наляцеў Віктар Паўлавіч. Убачыў, што дзеткі сабе трохі морквы ўзялі, крык падняў, лямант. Скочыў у інамарку і на ўсёй хуткасьці да дырэктара школы. «Позор, — верашчыць, — ваши школьники воруют колхозную морковь. Примите меры!» А сам аж калоціцца ад праведнага гневу. Ці жартачкі гэта — калгаснае дабро раскрадаюць! Дырэктар школы сабрала лінейку і загадала вучням, каб заўтра ж прынесьлі ўсю скрадзеную моркву ў школу. І дзеці цягнулі торбачкі з морквай і высыпалі яе ля дзьвярэй габінэта дырэктара школы...

Выпадак прыкры, але ён яскрава паказвае адносіны Віктара Паўлавіча да людзей. І вінаваты ў гэтым здарэньні ня вучні, а сам старшыня калгаса. Бо ён сваёй абыякавасьцю справакаваў вучняў узяць сабе трохі морквы. На добры розум, дарэчы, старшыня калгаса павінен быў прыехаць на поле, падзякаваць дзецям за працу і прапанаваць узяць па паўкошыку морквы. Калгас не пабядней бы. Тым больш, што ўсю сабраную моркву (прычэпаў пяць) зьвезьлі ў гумно і невядома што з ёй будуць рабіць.

Школа штогод дапамагае калгасу ва ўборцы бульбы. Увесь верасень вучні ня вучацца, а працуюць на бульбяных палетках. Віктар Паўлавіч, пэўна, ведае, што ў шмат якіх гаспадарках выкарыстоўваюць натуральную аплату — частку зарobленага людзі могуць атрымаць прадуктамі: бульбай, морквай, збожжам і г. д. Ды й у газэтах стаіць лямант затурканых кіраўнікоў: прыяжджайце, людцы добрыя, з горада, дапамажыце ўбраць з палёў вырашчанае, атрымаеце за гэта і грошы, і гародніну. Ураджай гіне, рук працоўных не хапае. А Віктар Паўлавіч замест падзякі гвалт паднімае. І не разумее, што школьнікі ня кралі моркву, яны ўзялі тое, што ім па праву належыла. Сквапнасьць, як і залішняя пыха, нікому гонару ня робіць.

## Лепш быць жабраком, чым паляводам

Давялося ў канцы верасьня зьезьдзіць у сталіцу нашай краіны. Ужо ня зьдзіўляюся, сустракаючы на кожным кроку «сьнікерсы» ды «марсы» за тысячу рублёў, мноства самых разнастайных тавараў у шматлікіх «камках». Аднак для вясковага чалавека дзіўна бачыць ля вакзала, у падземных пераходах і проста на вуліцах жабракоў, якія сумна сядзяць у чаканьні міласьціны. Гэта ў асноўным людзі сталага веку, у паношанай, залатанай вопратцы, больш жанчыны, але часам можна сустрэць і дзядулю-інваліда з адной нагой, і проста неахайнага «бомжа» у ватоўцы.

Звычайна я не зьвяртаю ўвагі на жабракоў, але гэтым разам у падземным пераходзе падыйшоў да дзеда, што сядзеў на зэдліку, сьціплы такі дзядок. Побач стаяла картонавая скрынка з-пад абутку, у якой было нямала грошай. У асноўным «зайчыкі» і «бабры», зрэдку валяліся «ваўкі» і пара «рысяў». З пачуцьцём якойсьці годнасьці я выцягнуў з кішэні «мядзьведзя» і паклаў у скарбонку. Дзядок адразу падняў на мяне вочы, зьдзіўлены такой шчодрасьцю.

— Дазвольце, калі ласка, задаць вам адно толькі пытаньне, — прамовіў я і ўбачыў у вачах чалавека трывогу і нейкую насьцярогу. І адразу ж растлумачыў сваю цікаўнасьць.

— Не, я не журналіст. Я звычайны палявод. Увесь жнівень працаваў без выхадных у калгасе на зернатаку і за 31 дзень атрымаў 32 тысячы. І хачу параўнаць. Калі не сакрэт, скажыце, вы больш атрымліваеце?

Жабрак усьміхнуўся.

— Какой здесь секрет? Иногда в день бросают (так і сказаў — бросают) полторы-две тысячи, иногда, по выходным, больше. Но менее тыщи в день не бывает. А в месяц выходит около сорока кусков.

Я сумна паківаў галавой, падзякаваў за інфармацыю і пайшоў сваёй дарогай. Мне здалося, што жабрак паглядзеў на мяне з нейкай шкадобаю і задавальненьнем.

Першае, што я зрабіў, як вярнуўся з Менску — пайшоў у праўленьне калгаса й аддаў у аддзел кадраў заяву на звальненьне. У сувязі з эканамічнай дыскрымінацыяй у адносінах да сялянаў. Я ня зьбіраюся прадаваць сваю працу антынароднай дзяржаве па жабрачым кошце. А вы, паважаныя сяляне-калгасьнікі?

## Мэтамарфоза

Вельмі цікава назіраць, як паступова ў людзей мяняюцца прынцыпы, сьветапогляды, накірункі. Нашае грамадзтва няўпрыкмет палярызуецца на два лягеры: камуністычна скіраваных людзей і дэмакратаў, якія гуртуюцца ў асноўным вакол БНФ і Грамады. А між супрацьлеглымі групамі — народ, які сьпіць і якога не могуць разбудзіць ды раскатурхаць ані камуністы, ані дэмакраты. Зьмяненьне ж сьветапогляду асобных людзей — факт ня толькі псыхалягічнага дасьледаваньня, але і для філязофскіх развагаў.

Канешне, пад уплывам сродкаў масавай інфармацыі, фактаў жыцьця, усякіх сацыяльных варункаў пэўная колькасьць людзей пераконваецца ў антычалавечай, зьвярынай сутнасьці камуніяцкіх ідэяў і паступова пазбаўляецца «саўкоўскага» мэнталітэту. Да прыкладу, прафэсар ГрДУ Габрусевіч, былы верны ленінец-марксіст, паступова стаўся сьвядомым беларусам. І мала хто сумняецца ў шчырасьці яго пераканаўняў. Аднак ёсьць і супрацьлеглыя выпадкі. Вядомы на Наваградчыне дэмакрат Міхась Талочка цяпер працуе карэспандэнтам у «Советской Белоруссии». І піша пракамуніяцкія артыкулы на расейскай мове, з усім характэрным наборам саўдэпаўскіх прапагандысцкіх прыёмаў. Пра гэта напісана у № 2 «Пагоні». Працягваючы традыцыю ананімнага аўтара артыкула «У Літве чакаюць «Беларусь», а не «Советскую Белоруссию», імя і прозьвішча «гэроя» я таксама буду пісаць па-расейску — Михась Толочко.

Я даўно асабіста ведаю Михася як змагара-беларуса і таму быў больш чым зьдзіўлены, калі ўведаў, што ён памяняў сваё амплуа — стаўся савецкім журналістам. Напрыканцы 80-ых гадоў Михась працаваў адказным сакратаром у Наваградзкай райгазеце «Новае Жыццё», і калі распачалося чарговае адраджэньне, Михась актыўна падтрымаў нацыянальны рух. З яго дапамогай была створаная беларуская суполка «Сваякі» — накшталт знакамітай гарадзенскай «Паходні». Михась Толочко пачаў працаваць і ў ТБМ — менавіта яго ідэя стварыць ворган Наваградзкага ТБМ газэту «Наваградзкі кур'ер». І першы нумар выйшаў у студзені 1991 года. Михась «узяў» сабе галоўную пасаду — рэдактар «Наваградзкага кур'ера». Працавалі ў газэце, акрамя Михася, Юрась Грэцкі і аўтар гэтых радкоў. Аднак у хуткім часе Михась пачаў абыякава адносіцца да воргана ТБМ, бо ўзяўся шукаць больш «цёплае» месца.

Газэта выходзіла нерэгулярна, на працягу года выйшла ўсяго чатыры нумары, і неўзабаве ворган ТБМ спачыў у бозе. А Михась Толочко атрымаў пасаду журналіста ў «Советской Белоруссии» і пераехаў у сталіцу.

Там ён пачаў пісаць артыкулы на чужынскай мове, з дапамогай якой расейскія манархі, а потым і камуняікі імкнуліся каланізаваць наш Край.

Вось такая адбылася мэтамарфоза. Канешне, кожны сам робіць свой выбар. «Не мяняюць погляды толькі дурні ды мерцьвякі», — казаў філёзаф. Эвалюцыя сьветапогляду, пераходы з аднаго ідэйнага лягера ў другі — рэч нармальная і звычайная ў наш час. І падтрымліваць фашызм ці дэмакратыю, гаварыць на расейскай мове ці на роднай — неад'емнае права кожнай асобы. І я не асуджаю Михася, не называю яго здраднікам. Але я шкадую, што даваўся працаваць з чалавекам, які зьбег у «Советскую Белоруссию» з роднага Краю. Паміж беларушчынай і каўбасой Толочко выбраў апошняе. І мне застаецца толькі пажадаць: смачна есьці, Михась!

**Андрэй ПЯТКЕВІЧ.**

---

### Станіслаў СУДНІК

## Дзе раней мы былі

**Ворагі беларушчыны аказаліся непадрыхтаванымі да масавага ўздыму нацыянальнага руху й ніяк не могуць зразумець, чаму яны прагледзелі такую колькасьць «нацыяналістаў». І каб зьняважыць змагароў за нацыянальнае адраджэньне, пытаюцца: «Сядзелі, маўчалі, а зараз асьмялелі».**

Дзе раней мы былі?
Ды баланду па турмах хлябалі,
Па бясконцых этапах брылі
І ў сібірскіх сьнягах паміралі.

Дзе раней мы былі?
Трохі ў родных палетках і хатах.
Ну, а рэшта? У чорнай зямлі,
У праклятых навек Курапатах.

Дзе яшчэ мы былі?
Ды псіхушкі цішком абжывалі,
Ці гарэлку без спыну пілі,
Ці ў адчаі зацятым маўчалі.

Як народу жылося,
мы таксама жылі.

Ды вось выцяў мароз
па чырвонай чуме,
І мы зноў, нібы Фенікс, паўсталі.
І ўвесь зброд бальшавіцкі
ад жаху зьнямеў.
Бо нас бачыць жывымі даўно
не чакалі.

Ну а зараз,
як ток з іх паціху зышоў,
Зашыпелі і крык паднялі,
І вішчаць,
як пра самы сьмяротны з грахоў:
«Дзе раней вы былі?»

## Дурны беларус

Сваю незалежнасьць за нафту
І волю дзяржаўную за каўбасу
Я — дурань, нічога ня варты, —
У маскальскую прагную краму нясу.

Я славу дзядоў у мяшэчак
І мову матулі — таксама туды,
Мо дасьць мне маскаль
хоць з паднечак
Той самай жалезнай іржавай руды.

Я сам жа ня ўмею нічога:
Скасіць там і поле якое ўзараць.
Калека бязрукі, бязногі,
На ласку маскальскую мушу чакаць.

Хвалюе мяне, што пад 'есьці.
А нечы прымус — мне зусім
не прымус,
Нікуды ня хочу я лезьці —
Я ж ціхі, рахманы, дурны беларус.





# *ВАЙНА І ЛЮДЗІ*

Алесь ЧОБАТ

# Армія Краёва

## IV. Баявыя дзеяньні АК у 1943-44 гадох.

«Полен Акціон» немцаў у 1942-43 гг. прывяла да паважнага аслабленьня пазыцый палякаў у легальных структурах: на тэрыторыі ГК «Беларусь» беларусы складалі 80 прац. у адміністрацыі ды 60 прац. у паліцыі. Таму першыя буйнейшыя акцыі АК былі скіраваныя супраць беларускай дапаможнай паліцыі і БСА. Найбуйнейшай з іх быў захоп мястэчка Жодзішкі ў жніўні 1943 году. Шырока выкарыстоўваўся індывідуальны тэрор, найбольш актыўным ён быў у Лідзкім павеце, дзе да лета 1944 году загінула больш 1,2 тыс. беларусаў; камэндант Навагрудзкай Акругі АК Я. Правдзіц-Шляскі пісаў пазьней, што толькі на загад яго штабу было расстраляна каля 300 чалавек. Апроч вынішчэньня «чужой паліцыі» гэтыя акцыі дазвалялі палепшыць узбраеньне і ў нейкім сэнсе забясьпечвалі польскае насельнітцва перад нямецкім тэрорам — немцаў жа пакуль не чапалі. Аднак з лета 1943 году, як ужо было сказана, мацнела савецкая партызанка, а немцы ў сувязі са становішчам на Усходнім Фроньце былі змушаныя нават зьменьшыць свае сілы на Беларусі. Ствараліся больш спрыяльныя ўмовы ў барацьбе з немцамі й адначасова павялічваліся клопаты з боку савецкай партызанкі. Так, за 1942-44 гг. сілы АК у Навагрудзкай Акрузе правялі 102 апэрацыі супраць немцаў і 81 супраць партызан, а Стоўбцаўскае злучэньне (раён Пушчы, «партызанская зона», дзе немцаў амаль не было — **аўт.**) за 1942-43 гг. ажыцьцяўляла супраць немцаў толькі дробныя дывэрсіі, але правяло 32 апэрацыі супраць партызан, працягваліся й парахункі з беларускай паліцыяй. Таму калі **камандзір АК у Стоўбцах капітан Адольф Пільх** (псэўданім «Гура») сьцьвярджае, што **яго людзі зьнішчылі 6 тыс. «большэвікув»**, каманьдзіру варта паверыць...

У дзеяньнях АК на Беларусі ёсьць адна асаблівасьць. Па-першае, сілы АК тут умоўна можна было падзяліць на «тутэйшыя» і «прышлыя». Саму Армію Краёву складалі ўзброеныя фарміраваньні розных палітычных сілаў — ад крайне нацыяналістычных да левацэнтрысцкіх. «Тутэйшых», маючых вопыт 1939-га году й не ўяўляючых на «крэсах» іншай палітыкі, апроч «санацыі», формула АК «вайна на два фронта — з немцамі і з бальшавікамі!» цалкам задавальняла. Як было паказана вышэй, яны часьцей ваявалі з бальшавікамі, чым з немцамі. На «прышлых» трэба спыніцца падрабязьней.

У верасьні 1940 году ў Варшаве шэраг падпольных патрыятычных арганізацый зьліліся ў партыю «Канфэдэрацыя Народу», пазьней узьнікла яе вайсковае адгалінаваньне «Канфэдэрацыя Збройна», а ў ліпені 1942 году ў Варшаве й навакольлях пачалі фарміравацца ўзброеныя групы корпуса «Удэжнэ» («удар») пад камандаваньнем галоўнага камэнданта Баляслава Пясецкага. У пошуках палітычнай плятформы тэарэтыкі прыйшлі да ідэі г. зв. «усходнеэўрапэйскай імпэрыі» пад эгідай Польшчы (Беларусь, Украіна, Чэха-Славаччына, Вэнгрыя, Харватыя), як супрацьвагі Расеі і Германіі. Лёзунг «вайны на два фронта» у КН і «Удэжэня» трансфармаваўся ў **«вайну з немцамі пры нэйтралітэце з расейцамі!»**, а таксама кіраўніцтва КН патрабавала ад сваіх сяброў не «стаяць са зброяй напагатове» ды чакаць паўстаньня (другі асноўны лёзунг АК — **аўт.**), а наадварот — актыўна дзейнічаць супраць акупанта. Пасьля доўгіх перамоваў з Галоўнай Камэндатурай АК 17 жніўня 1943 году гэнэрал Т. Камароўскі (псэўданім «Бур») выдаў загад, паводле якога «Удэжэне» ўключалася ў агульную структуру АК **пры захаваньні аўтаноміі ў справах палітычнай прапаганды**, а паколькі актыўнасьць «Удэжэня» на абшарах цэнтральнай Польшчы ГК АК лічыла несвоечасовай, атрадам «Удэжэня» была пастаўленая задача скрытна выйсьці **на правы бераг Нёмана** і там разгарнуць барацьбу супраць немцаў.

I УВК («удэжэнёвы батальон кадровы») меў перайсьці Буг і прыгатаваць базы, але ў Белавежскай Пушчы быў разьбіты ў кастрычніку 1942 году. II і III УБК абходзілі Пушчу з поўначы, але за Беластокам былі расьсеяныя немцамі — трэба мець на ўвазе, што «батальён» быў толькі «ядром» з 40—60 чалавек. Больш пашчасьціла IV УБК — атрад здолеў перайсьці Нёман пад Гожай, але трапіў у засаду ля в. Стрыеўка каля воз. Белае, панёс цяжкія страты й адступіў. Дарэчы, нумары батальёнаў азначаюць парадак іх высылкі, гэта значыць, ацалеўшыя ў другім ці трэцім вярталіся на базу, уліваліся ў наступны «нумар» і г. д. Нарэшце, пасьля доўгай, бо аж да вясны 1943 году, падрыхтоўкі, прыгатаваньня ў лясах пад Друскенікамі базы «Старт-III» (дарэчы, пад началам таго ж Т. Зана, сп, «Борэк» — **аўт.**) і нават пляцоўкі для прыёма парашутных грузаў ад саюзьнікаў, вырушылі VI і VII батальёны — першы таксама панёс цяжкія страты на Аўгустоўскім канале і пад Азёрамі, другі ж скрытна выйшаў у раён дыспазыцыі Н. Двор—Васілішкі. **З VII-га і рэшткаў іншых батальёнаў быў сфармаваны VIII УБК пад камандаваньнем камэнданта Б. Пясецкага, сп. «Саблеўскі».**

Да таго часу сытуацыя ў Шчучынскім і Лідзкім паветах выглядала наступным чынам.

— Сустрэўшы атрад «Леха» (Юзэф Сьвіда,— **аўт.**), далей ішлі разам,— піша партызанка З. Кабыляньска ў «Запісках санітаркі».— Са зьдзіўленьнем глядзелі на тое, як «лехаўцы» паводзяць сябе на маршы. Ішлі днём, ня толькі не ўкрываючыся, але нават сьпяваючы ва ўсю моц, на кватэры займалі цэлыя вёскі, амаль не выстаўлялі варту. Маршы рабілі конна альбо на вазах. Мелі добрыя боты, добрыя мундуры, былі сытыя і самаўпэўненыя. У параўнаньні з імі мы выглядалі, як абарванцы. Але нягледзячы на наш жалосны выгляд, наперадзе ляцелі чуткі: «варшавякі» голыя і босыя, але маюць першаклясную зброю й біцца ўмеюць...

VIII УБК прайшоў па нямецкіх тылах не адну сотню кілямэтраў, а зброю здабываў у баёх, нападаючы нават на пастарункі на тэрыторыі «карэннай» Усходняй Прусіі!

Спачатку VIII УБК атрымаў загад заняць вёску Мацевічы над Нёманам. Аднойчы з боку Жалудка прагучалі стрэлы, а вартавы далажыў, што «до Немна ідом чэрвоні!» — немцы выцясьнілі якуюсь савецкую адзінку, да паўроты. «Саблеўскі» загадаў адступіць у лес і заняць абарону — калі пойдуць на нас, то пераб 'ем; калі ім трэба за Нёман праз брод, няхай ідуць. «Чырвоныя» пераправіліся. Пасьля чаго на чале свайго атраду зьявіўся Ч. Заёнчкоўскі (пс. «Рагнэр»), які літаральна, як сьведчыць З. Кабыляньска, накінуўся на «Саблеўскага»: — Навошта ты іх выпусьціў! Я іх заганяў на цябе!.. «Саблеўскі» адказаў, што яго людзі з «чырвонымі» не ваююць. Пасьля гэтага VIII УБК адвялі на поўнач ад дарогі Шчучын — Ліда, дзе савецкіх партызанаў не было, і даручылі «варшавякам» ваяваць з немцамі. Батальён «Саблеўскага» разьбіў калёну з 80 аўтамашын на шашы Ліда — Шчучын, зьнішчыў гарнізоны ў в. Дворышча, на ст. Кяна, у Суботніках і г. д. 1 ліпеня 1944 году «Саблеўскі» акружыў у Трабах батальён СС і разьбіў яго ўшчэнт, захапіўшы ў палон каманьдзіра і 152 падначаленых. Перад «маршэм на Вільно» VIII УБК налічваў 17 ахвіцэраў, 102 падхарунжых і 580 жаўнераў, усіх 699 чалавек; меў на ўзбраеньні гарматы, мінамёты, станкавыя кулямёты, чвэрць байцоў была з аўтаматычнай зброяй — усё здабытае ў баёх...

То значыць — абвінавачваньні АК у супрацоўніцтве з немцамі беспадстаўныя?!

А былі ж яшчэ напады на турмы і вызваленьне вязьняў у Лідзе і Пінску, буйныя апэрацыі ў Жалудку, Шчучыне, Скрыбаўцах, Ашмянах, Солах... І ўсё-такі гэта была дзіўная вайна.

*) Пачатак у №№ 33—35.

# Войска засьпявала па-беларуску

На пляцы маршыруе ўзвод у звычайнай шэрай савецкай форме, ды сьпявае па-беларуску! Партызанскую песьню, а потым — грунвальдзкую. Ці гэта ня сон? Не, гэта жаўнеры з Фолюша, з 6-й асобнай мэханізаванай брыгады. Яна ўтварылася ў Горадні ў жніўні 1992-га як першая ў Беларускім войску. «Пагоня» паведамляла пра гэта, а таксама — пра прысягу у гэтай першай беларускай брыгадзе.

Камандаваньне запрасіла нядаўна журналістаў, каб пазнаёміць з жыцьцём вайскоўцаў. Паказалі бадай усё: ад сталоўкі да вучэбнага бою, ў якім былі ўжыты ўсе піратэхнічныя эфэкты. Двойчы была кава. З цестачкамі ў габінэце камандзіра брыгады палкоўніка Паўлоўскага, быў і сяброўскі полудзень. Карацей, усё гэта каштавала. Але выдаткі, безумоўна, апраўдаліся. Лейтматывам сустрэчы было наступнае пажаданьне: мы — вашае войска, таму цікаўцеся нашым жыцьцём, прыходзьце, пішыце пра нас.

■

Канешне, ператварыць савецкую армію ў беларускае войска надзвычай складана, калі толькі магчыма наогул. Супярэчнасьць моманта адлюстроўвае гэрб «Пагоня» з партрэтам Суворава побач. «Дзякуючы» гэнэралісімусу сваім часам была зьнішчана дзяржаўнасьць пад Пагоняй. Але праз 200 гадоў яна зноў адрадзілася. Што сёньня робіць побач з Пагоняй гэнэралісімус — незразумела. Вядома ж, зьмены ў войску былі б больш пасьлядоўнымі, каб наш урад ажыцьцяўляў нацыянальную палітыку, ад чаго ён, на жаль, вельмі адбрыкваецца.

Можна адчуць і зразумець стан афіцэраў часткі савецкай арміі, адцятай ад Расеі. Беларусаў сярод іх мала. Крыўда, абраза, бязсільле... Што яшчэ адчувалі й адчуваюць яны? А што адчуваем мы? Мы будзьма паважаць іх, калі яны стануць паважаць нас. Калі адмовіўся вярнуцца на Радзіму, трэба паважаць беларусаў і беларускую дзяржаву. Ня варта сплываць жоўцю, змагацца за аднаўленьне СССР, як робяць некаторыя. Я разумею, што ў афіцэра няма ранейшых пэрспэктываў паехаць у ГДР або на Камчатку. Але ўсё гэта не магло працягвацца бязконца. Аўганскай вайной ды жахлівай мілітарызацыяй СССР сам сабе падпісаў прысуд. Немагчыма было бязконца штогод вырабляць болей за ўвесь іншы сьвет танкаў, ядзерных боегаловак, атамных падводных лодак. Ніякая эканоміка, ніякі народ не змаглі б гэтага вытрымаць.

Спадары афіцэры! Служыце ў Беларускім войску на здароўе. Я спадзяюся, што яно будзе хоць крыху больш людзкім за савецкую армію, калі, канешне, адмовіцца ад яе традыцый і чужых гэнэралісімусаў, якія некалі катавалі беларускі народ. Калі хто ня хоча служыць, дык трэба звальняцца, ды перавучвацца, займацца прадпрыймальніцтвам, напрыклад. Трэба жыць дружна й мірна, а не нагнятаць падазронасьць, напружаньне, не спрабаваць распаліць у нас нацыянальную канфрантацыю, да чаго ўсяляк імкнуцца прасавецкія чырвона-карычневыя сілы.

Ніхто ў нас не цікавіцца асабліва, хто ты па нацыянальнасьці. А ў беларускім пашпарце нават такога запісу ня будзе. Усе мы аднолькавыя грамадзяне Рэспублікі Беларусь, дык давайма ж умацоўваць яе разам, агульнымі высілкамі. Плюньце вы нарэшце на гэты славэтны СССР. Усе імпэрыі распадаюцца. Гэта — ўсеагульны закон. Ствараць новае, прыгожае — куды лепей, як сплываючы злобай спрабаваць рэанімаваць абы што.

■

Войска засьпявала па-беларуску. Хацелася б спадзявацца, што гэта не для паказухі.

На брыфінгу журналістам паведамілі, што камандзір 28-га корпусу (сядзіба якога ў Горадні) сп. Мальцаў хоць заўтра гатовы загаварыць па-беларуску, а прысутныя афіцэры — хоць праз тры хвіліны...

Журналісты даведаліся таксама, што найлепш валодаюць мовай прапаршчыкі, а не шэрагоўцы, як лічылася раней, таму апошнім таксама трэба наведваць заняткі й пісаць дыктоўкі.

С. А.

# Кароль сказаў: «Цыц!». Што адкажуць лёкаі?

«Афіцэр павінен па-беларуску чытаць і перакладаць са слоўнікам»,— так сказаў міністр абароны Рэспублікі Беларусь гэнэрал-палкоўнік Казлоўскі на паседжаньні калегіі міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь, якое адбылося ў канцы жніўня г.г. Такім чынам, задача пастаўлена ў лепшых традыцыях камуністычных часоў. Гэта пры бальшавіках бальшыня нашых людзей у шматлікіх анкетах на пытаньне, якой замежнай мовай валодаеце, адказвалі, напрыклад,— ангельскай, чытаю і перакладаю са слоўнікам. Часьцей за ўсё гэта азначала веданьне некалькіх слоў з тае мовы.

А зараз на гэты ўзровень ведаў беларускай мовы арыентуе й наш міністр сваіх падначаленых. А калі ўзгадаць, то ўжо тры гады мінула, як быў прыняты Закон аб мовах.

Спадар Казлоўскі, напэўна, такі падыход успрымае, як той самы плаўны пераход на беларускую мову, які дэкляраваны ў Законе Рэспублікі Беларусь аб Узброеных сілах. Што ж, плаўней ужо не бывае.

У дадатак да гэтага, аналізуючы даклад намесьніка начальніка ўправы выхаваўчай работы палкоўніка Бакуна «Аб стане вывучэньня беларускай мовы ў войску», у якім адзначалася наяўнасьць цэлых падраздзяленьняў, якія могуць хоць сёньня цалкам перайсьці на беларускую мову, міністр абароны папярэдзіў, што тут «нельзя допустить перегибов», а актыўнасьць камандзіраў гэтых падраздзяленьняў трэба прыпыніць. Хай будуць, як усе, «чытаюць і перакладаюць са слоўнікам».

Такія вось варункі ў нашым вайсковым каралеўстве. Кароль сказаў: «Цыц!». Што адкажуць лёкаі?

Усяслаў ВОЙНІЧ.

## Выгодны падарунак

Лішкі зброі й вайсковай тэхнікі з арсэналу Чэшскай рэспублікі коштам 2 мільёны крон будуць перададзены ў якасьці дапамогі летувіскаму войску. Такое рашэньне прыняў урад Чэхіі. Як сказаў намесьнік старшыні габінэта міністраў Ю. Люкс, гэта у асноўным вайсковая тэхніка, якую намечана ліквідаваць. Справа ў тым, што яе зьнішчэньне абыйдзецца шмат даражэй, чым дастаўка ў Летуву.

(«Голос Литвы»).





# *ПАДАРОЖЖЫ*

Алесь АСТРАЎЦОЎ

# На карнавал у каралеўскую краіну, дзе на палях расьце ячмень

**ЧАСТКА ВОСЬМАЯ: «КАРНАВАЛ»**

**1. П 'яны, як швэд**

У першы дзень перад кожным стаяць толькі дзьве задачы: першая — надзець карнавальны строй, другая — напіцца. Зыходзячы з таго, як хто гэта робіць, можна вызначыць нацыянальную прыналежнасьць. Напрыклад, немцы — усе ў скураных нагавіцах, сьцягнутых збоку матузком, і з пляшкай піва ў руках. Швэд у кожнай руцэ трымае па пляшцы ліквору. Гэта — самыя моцныя напоі, якія ўжываюць у Скандынавіі. У Даніі кажуць: п 'яны, як швэд. На галовах яны носяць рагатыя шлемы вікінгаў. Толькі адзін рог загнуты ўверх, а другі — уніз.

**2. Гандаль**

На фэстывалі будуюцца цэлыя гандлёвыя вуліцы. Гандлююць карнавальнай атрыбутыкай. Тут ёсьць усё, ад афрыканскіх капялюшыкаў з вісюлькамі (іх прадаюць сапраўдныя чорнаскурыя тубыльцы), да розных аўстралійскіх бранзалетаў (іх прадаюць абарыгены). Ёсьць і польскія «сатанінскія» бляхі з танных мэталаў. Ёсьць ідыёцкія цыліндры й калпакі для блазнаў, вырабленыя з рознакаляровага штучнаа футра. Ёсьць аўтэнтычныя каўбойскія боты й капялюшы. Ёсьць рознакаляровыя, пакрытыя плямамі сукенкі й майкі. Ёсьць клясныя скураныя пасы. Ёсьць акуляры, самых неверагодных формаў і расфарбовак. Ёсьць падробкі пад срэбра. Ёсьць цудоўныя ювэлірныя вырабы ручной працы. Ёсьць стаптаныя вайсковыя боты, якія выстаўляюцца адразу параў па сто (цэлую роту разбулі!). Усе боты чамусьці сорак апошняга памеру. Ёсьць распісаныя мастакамі майкі (рарытэт!). Ёсьць паношаныя скураныя курткі.

Хто ня мае «прыстойнай» апраткі, альбо ў яго не хапае грошай (усё каштуе дорага), пачынае рэзаць на сабе джынсы й рваць кашулю. Такая ўжо тут пануе мода.

**3. Душ**

На тэрыторыі лягера ёсьць душавыя. У іх няма толькі дзьвярэй. Першы дзень імі ніхто ня карыстаецца.

**4. Іхнія «норавы»**

Гэта — тусоўка. Людзі цэлы дзень цягаюцца ад адной піўной яткі да другой, ад адной канцэртнай пляцоўкі да іншай. Зьнікаюць мужчынскія чэргі ў прыбіральні — яны пачынаюць хадзіць спраўляць патрэбу пад платы, хаця гэта даволі сымбалічная назва, бо амаль усе яны — з мэталёвай сеткі. Пад вечар пад платамі можна заўважыць і кабетаў, бо вакол прыбіральняў зьяўляюцца разьліўныя калюжыны, да іх проста не падыйсьці. Час ад часу вакол іх зьяўляюцца хлопцы з судзейскімі сьвісткамі. Хочаш-ня хочаш, але зьбіраецца натоўп.

Там-сям на зямлі валяюцца «мёртвыя» целы.

**5. Так!**

Першыя дні на ўсе пытаньні, якія патрабавалі сцьвярджальнага адказу, мы па інэрцыі казалі: «Так!» Будзь гэта мэнэджэр сцэны, альбо людзі з пэрсаналу абслугі, яны вельмі зьдзіўлена паглядалі ў наш бок. Потым Міхель растлумачыў, што «так» — па-данійску «дзякуй».

**6. Высяленьне**

Паводле кантакту гатэль для нас аплочваўся толькі за два дні. Наступнай раніцой мы сабралі рэчы й зьбіраліся да маці Міхеля, што выклікала зьдзіўленьне ў адміністрацыі вучэльні, у якой мы жылі. Калі мы растлумачылі ім, у чым сэнс, яны адказалі, што іх ня цікавіць наш кантракт і вярнулі нам ключы ад пакояў.

**7. Замест гарэлкі**

Калі мы куплялі піва ў горадзе, звычайна выбіралі па моцы, шчыльнасьці й кошту. Аднойчы мы знайшлі, як нам падалося, ідэальны варыянт. Піва было таннае, 9,6 градуса плюс дваццаць пяць працэнтаў. Да нашага зьдзіўленьня, з чатырох пляшак мы ўпіліся так, як быццам выпілі па паўтары пляшкі гарэлкі. Аказваецца, у Даніі яго п 'юць толькі алкаголікі.

**8. Тэатр**

Па полі ехалі разьбітыя «Жыгулі», у якіх сядзела чатырох голых мужчынаў у гумавых шапачках на галовах. Ззаду ішоў з рогатам натоўп і махаўся ім на багажнік.

Гэта было канцэптуальнае выступленьне галяндскага тэатру «Крыстыянсанд кунст камандо».

**9. Пратэст**

Пад час выступленьня «Мотархэд» на службовую тэрыторыю ламілася голая пара з мэтай зрабіць афіцыйную заяву ў прэсцэнтры. Іх ня пусьцілі. Заўважыўшы, што на іх ніхто не зьвяртае ўвагі, яны апрануліся й пайшлі на канцэрт.

**10. Немцы**

У немцаў жудасная аксэлерацыя. Яны ўсе пад два мэтры ростам. Калі яны напіваюцца, дык абавязкова гучна рагочуць. Сустрэўшы такога ў натоўпе, ты ўпэўнены, што ён цябе штурхне. Але ён выгінаецца ўсім целам і няпэўным крокам абмінае цябе. Калі ўсё ж такі дакрануўся локцем, засаромлена мармыча: «Соры!»

Такое здаралася не адзін раз. Камэнтары нашых: «У нас бы даўно парэзалі адзін аднаго!»

**11. Панкі**

Кожны панк — «твор» мадэрновага мастацтва. Такіх неверагодных «іракезаў» самых невераемных расфарбовак, ды ў такой колькасьці (іх — тысячы) не сасьніш у самым жахлівым сьне. Увесь твар, вушы абавязкова са срэбнымі кольцамі. Кабеты ўтыркаюць іх і ў свае саскі. Рукі, ногі, сьпіна пакрытыя, нібы ў мэталёвага вожыка, тачонымі сталёвымі шыпамі.

Гэта адзіная групоўка людзей на фэстывалі, хто паводзіў сябе досыць агрэсіўна.

**12. Паліцыя**

Нам сустракаліся вельмі рэдкія патрулі ў натоўпе. Яны ходзяць па двое, у параднай форме, бяззбройныя. Толькі «ўокі-токі».

**13. Анёлы**

Гэта — барадатыя пяцідзесяцігадовыя дзядзькі, зашытыя ў скуру (на адзеньні сустракаюцца нават элемэнты рыцарскіх латаў), на жудасных чорных матацыклах. Іхнія «монстры» маюць па дзьве фары й чатырохцыліндровыя У-падобныя рухавікі.

Яны нічога ня робяць, папросту цэлымі днямі адлежваюцца каля сваіх «коней».

**14. «Хэш»**

Яго рэзкі пах б 'е ў нос амаль на кожным кроку. «Хэш» — скарочаная назва. У Саюзе яго называюць «гашыш».

**15. Парк**

Кожную ноч тэрыторыю спрабуюць ачысьціць добраахвотнікі, узброеныя адмысловымі дворніцкімі «дзідамі». Але гэта мае мала сэнсу. Пад канец фэстывалю ўся тэрыторыя спрэс усыпана ламанымі пластмасавымі келіхамі. Шпацыруеш па іх, як па восеньскім парку.

**16. Нібы ў заапарку**

Апошні дзень — нядзеля. У гэты дзень людзям, старэйшым за пяцьдзесят пяць гадоў, уваход на фэстываль бясплатны. Ад самага ранку сюды сыходзяцца й зьяжджаюцца сівыя старушкі з мініятурнымі тэатральнымі кайстрачкамі. Пад рукі яны трымаюць сваіх сівых сужэнцаў. Разам яны з добразычлівымі ўсьмешкамі разглядаюць усё гэта пабоішча й мілуюцца з таго, як адпачываюць іхнія дзеці й унукі.

**17. Выпадковыя сустрэчы**

Праз пару дзён у Капэнгагэне я выпадкова сустракаў знаёмых фэстывальшчыкаў. Усе яны былі памытыя, прыстойна апранутыя, добра адпачыўшыя. На фэстывалі яны хадзілі заўсёды нападпітку й нямытыя.

**18. Кар 'ера**

Мы пабывалі, з пункту гледжаньня былых ідэалягічных ворганаў, у самым пекле заходняга ладу жыцьця. Каб гэта адбылося некалькі гадоў таму, уражаньняў мне б, мабыць, хапіла, каб да старасьці абурана крытыкаваць загніваньне заходняга грамадзтва. Я б мог нават на гэтым абараніць дысэртацыю й дабрацца да самага камсамольскага ЦК...

**(Працяг будзе).**

## Тры экспэдыцыі да Жыткавічаў

Нядаўна лекары гарадзенскага аб 'яднаньня «Дзеці ў бядзе» скончылі сваю трэцюю па ліку навукова-даследчую экспэдыцыю па Жыткавіцкім раёне Гомельскай вобласьці. Лекары абсьледавалі некалькі тысяч мясцовых дзетак й прыйшлі да высновы, што ў многіх з абсьледаваных ёсьць адхіленьні, выкліканыя сталым узьдзеяньнем на арганізм павышанага ўзроўню радыёфону. Фактычна ў кожнага чацьвёртага абследаванага выяўлена павялічаная ў памерах шчытавідная залоза, таксама паніжаны ўзровень у крыві гэмаглабіна.

Спэцыялістамі аб 'яднаньня распрацавана навуковая праграма прафіляктычных дзеяньняў. Галоўнымі парадамі зьяўляюцца высокавітамінная харчаваньне і штогодняе аздараўленьне дзетак ў чыстых зонах.

**Г. У.**

# Ісус Хрыстос прыйшоў на зямлю, каб аб 'яднаць усіх нас у любові да хрысьціянскай веры

Архібіскуп Беластоцкі Станіслаў Шымэцкі 29.08.93 г., адказваючы на пытаньні карэспандэнта польскага штотыднёвіка «Gość niedzielny» («Госьць нядзельны»), у сваіх выказваньнях крануўся гісторыі ўзьнікненьня праваслаўнай веры і саміх праваслаўных вернікаў — беларусаў на Беласточчыне.

Згодна высноў, гэрарха, **усе праваслаўныя вернікі а таксама беларусы іншых канфесій — гэта нашчадкі расейцаў, прывезеных сюды некалькі вякоў таму царскімі ўладамі на ўзамен вывезеных да Сібіры палякаў.**

**Ой, ці ж так! Гісторыя мае зусім супрацьлеглыя доказы. Але вернемся да выказваньняў Архібіскупа. Ён і яго памагатыя — Біскуп Эдвард Азароўскі і ксёндз Станіслаў Пятроўскі — сьцьвярджаюць, што толькі ў 1989 годзе ў выніку вядомых вонкавых інтрыгаў некаторыя з жыхароў Беластоцкага краю пачалі называць сябе беларусамі.** І далей болей, высокастаўленыя «слугі божыя» як бы між іншым канстатуюць, што, нягледзячы на тое, **ці была тут царская ўлада, ці ўлада камуністых, праваслаўнае насельніцтва самага ўсходняга ваяводзтва заставалася маскоўскай агентурай.** Згодна высновам гэрархаў, польскае насельніцтва й сама польскасьць апынуліся пад пагрозай (якой, выступаючыя не ўдакладняюць). У сваіх выказваньнях Архібіскуп абвінавачвае і польскі ўрад, які да гэтай небясьпечнай польскасьці справы ставіўся абыякава. Таксама ў здрадзе інтарэсаў польскай грамадзкасьці ўлічана тагачасная мясцовая і цэнтральная прэса.

Нагаварыўшыся ўволю і ўсьцешыўшы сваё самалюбства, напрыканцы гутаркі гэрархі выдалі яшчэ, як кажуць, адзін пэрл, што бараніць польскасьць і хрысьціянства на Беласточчыне даводзілася толькі Каталіцкаму касьцёлу.

Вось такія заявы высокіх духоўных саноўнікаў. Вядома ж такія выступы не застаюцца незаўважанымі тымі, хто лічыць сябе сапраўдным беларусам і грамадзянінам Польшчы. З такой нагоды патрыятычныя беларусы зьвярнуліся праз газэту «Ніва» з адкрытым лістом да яго Экзэстыленцыі — Архібіскупа Беластоцкага Станіслава Шымэцкага. Каб зэканоміць газэтную паперу, спынімся на некаторых найбольш цікавых месцах гэтага ліста.

«Экзэстыленцыя» — гэта не XVII стагоддзе, і такія заявы ня жарты, але, на жаль, дзякуючы такім правакацыйным заявам, здараецца так, што нечакана гараць нашы сьвятыя храмы. Тым самым вынішчаюцца цэлыя пласты мясцовай беларускай культуры. Бо менавіта напружанасьць у нашым Беластоцкім краі — гэта спосаб мысьленьня пэўных палітычных колаў, пэўных людзей, якія маюць вялізарны ўплыў на мясцовую палітыку. Цяжка ў гэтых словах адшукаць адрабіну пашаны да іншых народаў ці веравызнаньняў. Але прачытаўшы гэткае інтэрв 'ю, нам вядома, адкуль выплывае гэты выток нянавісьці і ненармальнасьці суадносін тутэйшых палякаў з карэннымі жыхарамі краю — беларусамі. Шкада, што тыя, хто павінен выконваць запавет Божы — ненашкодзь і не забі,— сваімі дзеяньнямі падштурхоўваюць да становішча шавіністычнай адурманенасьці, бо Ісус Хрыстос прыйшоў на зямлю, каб аб 'яднаць усіх нас ў любові да Веры ў Бога і хрысьціянства. Але Архібіскупу, як кажуць, гэта да лямпачкі, бо ў яго вучэньнях паствы свае падыходы да веры й хрысьціянства ўвогуле. Толькі ён можа вызначыць, хто можа быць на сёньня сапраўдным хрысьціянінам. Але годзе ўжо зьдзекаў, на календары 1993 год».

**Міра ЛУКША.**
**Беласток.**

Каталіцкая духоўная эпархія шукае спонсараў, зацікаўленых у аднове помніка дойлідзтва — касьцёла кальвіністаў у мястэчку Іўе. Сродкі дасылаць на адрас Гарадзенскай духоўнай эпархіі з допісам — на адбудову касьцёла ў Іўі, ці на рахунак Іўеўскага філіяла ВалАграпрамбанку р-р 701702 таксама з допісам — на адбудову касьцёла кальвіністаў у Іўі.

